# Весткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamleńni**

Сусьветнае сеціва: *e-krama.com, pahonia.com*
Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

№ 5 (603)
Травень 2016 г.


# Сьвяточная вечарына ад Дзеда Барадзеда

Сакавік у Нью-Ёрку сёлета быў як ніколі беларускім. Спачатку "гукалі" вясну на Гудзоне, затым пачаліся сьвяткаваньні Дня Волі. Распачало чараду сьвяткаваньняў Згуртаваньне "Пагоня" на сходзе 19-га сакавіка (артыкул быў у мінулым нумары "Вестак"). А каманда праекта "Dzed Baradzed", якая ад сьнежня мінулага года пачала ладзіць беларускія вечарыны, таксама не змагла абыйсьці такое важнае нацыянальнае сьвята. 25-га сакавіка ў бары "Мерыдыян 23" на Мангэтане адбылася сьвяточная вечарына пры падтрымцы праекта Беларускага Інстытуту Амэрыкі "Беларуская прастора".

Мы, як арганізатары, кожны раз хочам зьдзівіць сваіх гасьцей. Гэтым разам, прыйшоўшых на імпрэзу, кожнага чакала порцыя смачных беларускіх дранікаў са сьмятанай, для атрыманьня падвоенай порцыі трэба было прадэклямаваць верш беларускіх паэтаў. Пакуль памешканьне напаўнялася людзьмі, гралі беларускія песьні, як сучасных гуртоў, так і "старой гвардыі". На бары можна было паспрабаваць старадаўні беларускі напой "Крамбамбулю". Сакрэт варэньня мы не раскрываем, на мінулай вечарыне ў студзені мы прадставілі толькі адзін від "Крамбамбуля панская", гэтым разам мы дадалі яшчэ і "Крамбамбулю пякучую". Бачна, што людзям падабаецца такая "экзотыка" на амэрыканскай зямлі, бо напой хутка разыходзіцца, і людзі нават пыталі ці не прадаецца ён бутэлькамі.

Сьвяточная праграма пачалася а 8-й гадзіне вечара. Напачатку ўзгадалі гісторыю абвешчаньня Беларускай Народнай Рэспублікі і яе значэньне, далей выступіла сакратар адукацыі Прэзыдыюма Рады БНР сп-ня Ала Орса-Рамана, яна зачытала віншавальны ліст ад Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы. Далей вядучая прапанавала гасьцям праглядзець кароценькае відэа ад кампаніі "Будзьма беларусамі!" – першы прафэсійна зроблены анімацыйны фільм беларускай мовай, прысьвечаны гісторыі Беларусі ад "пачатку часоў" да 1991-га года.

Узгадаўшы гісторыю роднага краю, пачалася віктарына "Сапраўдны беларус і сапраўдная беларусачка". У віктарыне ўзялі ўдзел 4 каманды па 3 чалавекі. Пытаньні былі з розных галінаў: мовазнаўства, гісторыя, этнаграфія, міталёгія, мастацтва. Пераможцамі віктарыны сталі Ільля Куніцкі, Дзяніс Талпека і Ігар Маханёк, яны атрымалі пасьведчаньні "Сапраўдны беларус" і памятныя асадкі ад фундатара віктарны Romandis Pen.



Далей для аматараў беларускай музыкі прапанавалі конкурс "Адгадай мэлёдыю", дзе дзяўчаты з 3, 5 і 8 нотаў павінны былі здагадацца, з якой песьні ўзя-

*закачэньне на бачыне 3*




*Пераможцы віктарыны*

# Красавіцкі сход Згуртаваньня “Пагоня”

У суботу, 9-га красавіка, у Доме Маракоў на Мангэтане прайшоў чарговы сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”. Напачатку старшыня арганізацыі сп. Віталь Зайка распавёў для гасьцей пра мэты і прынцыпы Згуртаваньня.

Затым ён паведаміў пра нядаўнія сьвяткаваньні 25-га Сакавіка – угодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі – на сходзе “Пагоні” 19-га сакавіка і супольнай з БАЗА імпрэзе 3-га красавіка. Прамоўца коратка распавёў пра абодва сьвяткаваньні, а затым спыніўся на значаньні Акту 25-га Сакавіка 1918-га года для лёсаў беларускіх людзей. Сп. Зайка адзначыў, што менавіта адтуль выводзіцца сучасная беларуская дзяржаўнасьць, у тым ліку цяперашняя Рэспубліка Беларусь. Парадаксальным чынам рэжым Лукашэнкі імкнецца ўсяляк замоўчваць і ганьбіць Акт 25-га Сакавіка, хоць гэты Акт ёсьць галоўнаю перадумоваю легітымнасьці цяперашняй РБ, а гэтая легітымнасьць усё гучней аспрэчваецца сродкамі прапаганды Расеі.

Затым сп. Зайка адзначыў, што, нягледзячы на мажлівае неразуменьне й брак элемэнтарных гістарычных ведаў усярэднестатыстычнага беларуса, каштоўнасьць беларускай незалежнасьці, яе неабходнасьць можна яму лёгка і хутка вытлумачыць. Калі ў сьвеце найвышэйшая каштоўнасьць -- чалавечае жыцьцё, то можна толькі ўявяць колькі беларускіх жыцьцяў было страчана на змаганьне за чужыя інтарэсы цягам беларускай гісторыі, і падлічыць, колькі войнаў, мажлівых сьмерцяў і калецтваў прадухіліла сучасная беларуская незалежнасьць за няпоўных 25 год ад свайго абвешчаньня.

Затым сп. Зайка зрабіў аб’яву пра маючы адбыцца 26-га красавіка мітынгу ля сядзібы Арганізацыі Аб’еднаных Нацыяў у памяць 30-й гадавіны катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, што дасюль працягвае ўплываць на жыцьцё і здароўе беларусаў, больш мільён якіх працягваюць жыць на абшарах, забруджаных радыяцыяй. Анкалягічныя клінікі працягваюць атрымліваць новых пацыентаў, шмат зь якіх дзеці, народжаныя ўжо пасьля Чарнобылю. Таму “Пагоня” выкажа салідарнасьць з пацярпелымі ад Чарнобылю, і выкажа пратэст супраць палітыкі рэжыму Лукашэнкі, што пакінуў сам на сам зь бядою шмат каго з ахвяраў Чарнобыльскай аварыі.

Скарбнік аддзелу сп. Віктар Едзіновіч распавёў пра свой досьвед жыцьця ў Амэрыцы і адзначыў, што мог бы даць некаторыя парады тым, хто хацелі б памяняць свой статус у ЗША.



Віктар Едзіновіч

У разьдзеле “Рознае” адбыліся знаёмствы прысутных з гасьцямі Згуртаваньня “Пагоня”.

Пасьля знаёмствы можна было працягнуць падчас калегаваньня пры сьціплых пачастунках.

**Віталь ЗАЙКА**

# Пікнік у Праспэкт парку

Незаўважна, але з кожным месяцам беларуская суполка становіцца актыўнейшай і зьяднанай. Асабліва актыўнічае моладзь, што ня можа ня радаваць. Зьяўляюцца новыя ініцыятывы і новыя клюбы па інтарэсах. Апошняя з сустрэч – гэта пікнік у Праспэкт парку ў Брукліне.

Такія сустрэчы пачаліся ў мінулым годзе. У жніўні летась сп. Марат Клакоцкі падказаў мне ідэю арганізаваць невялікі пікнік на прыродзе, якую мы разам неўзабаве пасьпяхова і ажыцьцявілі. Тады ўдзельнікаў было 20 чалавек, і такі спосаб баўленьня часу людзям спадабаўся. Але восеньню сабрацца яшчэ раз не атрымалася. Таму сёлета “сэзон шашлыкоў” мы распачалі 17 красавіка ў нядзелю. На тым жа месцы ў Праспэкт парку.

Гэтым разам сабралася ўдвая больш людзей, і нават маладыя пары прывезьлі дзвюх маленькіх удзельніц, самай малодшай два з паловай гады. Сабралася досыць інтэрнацыянальная кампанія. Беларусаў, канешне, была большасьць, але далучыліся і сябры з Украіны, Расеі, Грузіі, Латвіі. Кожны пашырыў сваё кола знаёмых і адпачыў на сьвежым паветры.

Бавілі час там ад абеду аж да 6-й вечара. Гулялі ў фрысбі, валейбол, у “Кракадзіла” (з дапамогаю пантамімы паказаць слова). Спадабалася гульня для знаёмства “Расьцягушкі”. Смажылі мяса, рыбу, грыбы, гародніну, хат-догі. Частаваліся беларускімі цукеркамі і печывам. Карацей, гэты пікнік можна апісаць трыма прыметнікамі: цёпла, весела і смачна.

Усім спадабалася, пыталі: “Калі зьбіраемся наступны раз?” Як арганізатарка, абяцаю, што зьбірацца будзем. Наступны раз плянуем у траўні. Аб’ява будзе прыкладна за тыдзень да сустрэчы ў суполцы ў Фэйсбуку “Беларусы ў ЗША. Разам лягчэй”. Запрашаем усіх, далучайцеся, калі ласка. Таксама зьбіраецца беларуская каманда па футболу для турніра з іншымі нацыянальнымі камандамі ў Нью-Ёрку. Сачыце за навінамі.

**Ганна ШАРКО**



# Беларуская памяць у вайне на Данбасе

*"У чалавека нельга адабраць памяць,*
*нават адабраўшы ў яго ўсё астатняе..."*




У Кіеве ўсталявалі мэмарыяльную дошку, прысьвечаную тром загінулым ва Ўкраіне грамадзянам Беларусі: Міхаілу Жызьнеўскаму, Алесю Чэркашыну і Віталю Ціліжэнку. Мэмарыяльную дошку адкрылі на сьцяне каледжа Кіеўскага ўнівэрсытэту тэхналёгій і дызайну, які разьмешчаны на вуліцы Беларуская, 22.

Грошы на помнік зьбіралі сябры і блізкія загінулых, а кіеўскі Саюз вэтэранаў АТА (Антытэрарыстычнай Апэрацыі) дапамаг прайсьці ўсе інстанцыі, каб атрымаць неабходныя дазволы на ўсталяваньне. Скульптура выкананая ў чырвона-бела-чырвоных колерах нацыянальнага сьцягу Беларусі, а шчыт ўпрыгожвае "Пагоня" – гістарычны герб беларускіх земляў. Аўтар помніка Глеб Гржабоўскі сам страціў сына ў Данецкам аэрапорце і пагадзіўся ўдзельнічаць у праекце на дабраахвотных пачатках.

Жызнеўскі загінуў у сталіцы Ўкраіны на вуліцы Грушэўскага, 22-га студзеня 2014-га года ад агнястрэльнага раненьня. Алесь Чэркашын і Віталь Ціліжэнка былі добраахвотнікамі тактычнай групы "Беларусь", якая ваявала ў складзе сіл АТА ад пачатку баявых дзеяньняў. Яны загінулі падчас бою ў пасёлку Старогнатаўка ў Данецкай вобласьці ў жніўні 2015-га года.

Слава Ўкраіне і Жыве Беларусь!

***Алег ПАЎЛІЎ***

## Сьвяточная вечарына

***заканчэньне з бачыны 1***

тая пэўная мэлёдыя, узгадаць назву той песьні ці назваць імя яе аўтара. У дзяўчат перамагло сяброўства – перамогу падзялілі Ксенія Кручок і Вольга Новаковіч. Дзяўчаты таксама былі ўзнагароджаныя асадкамі ад спонсара Romandis Pen і музычнымі дыскамі ад зоркі сьвяточнага вечара, вядомага беларускага выканаўцы Зьмітра Вайцюшкевіча.

А тады распачаўся доўгачаканы канцэрт сьпевака. Ён, як і абяцаў, выканаў новыя і старыя гіты. Зьміцер выдатна вёў канцэрт, увесь час падтрымоўваў дыялёг са слухачамі. Хутка да яго далучыўся Зьміцер Слеповіч, музыка і кіраўнік гурта "Litvakus". У Зьмітроў атрымлівалася ўсё вельмі зладжана і прыгожа, нібы так і было заплянавана. Увогуле, атмасфэра была цудоўная, залю перапаўняла энергія, музыкаў не адпускалі са сцэны. Усе сьмяяліся пад песьню "Беларускія мужчыны", плакалі пад "Дачакайся, матуля" і высока ўздымалі сьцягі пад песьні "Я нарадзіўся тут" і "Наш сьцяг". Прыемна былі ўражаныя нават тыя, хто ня быў знаёмы з творчасьцю Вайцюшкевіча.

Пасьля канцэрту Зьміцер разам зь вядучай Ганнай Шарко правялі сьвяточную лятарэю ад беларускай крамы "Symbal.by". Падарункі атрымалі больш 15 чалавек. Разыгрываліся кубкі з "Пагоняй" і надпісам "Жыве Беларусь", торбы з азбукай беларускага арнамэнту, бранзалеты, жаночыя завушніцы, шалік з надпісам "Belarus", мужчынскі мятлік упрыгожаны беларускімі ўзорамі, магніты і значкі.

Затым вечар прадоўжыўся моладзевай дыскатэкай, дзе танчылі пад "Ляпісаў", "Brutto" і "NRM".

Мы, як арганізатары гэтай вечарыны, хочам падзякаваць усім, хто прыйшоў, хто ўдзельнічаў у конкурсах, пакідаў свае водгукі. Для сябе лічым, што вечарна прайшла вельмі ўдала, бо перад сабою мы ставілі мэту прыцягнуць увагу розных пакаленьняў беларусаў – і гэта атрымалася.

Таксама, дзякуючы суполкам у Чыкага і Маямі і нашым агульным намаганьням, Зьміцер Вайцюшкевіч зрабіў невялічкі сьвяточны тур па ЗША. Хоць чыкагская і маямская суполкі значна меншыя чым у Нью-Ёрку, але ўсё было вельмі душэўна, нібы на сямейным сьвяце. За гэта асабіста дзякую Жаньне Чарняўскай (Чыкага) і Паліне Прысмаковай (Маямі).

Таксама шчыра дзякуем нашаму фатографу Настасьсі Сергіені, відэаапэратару Віктару Дудараву, яшчэ аднаму фатографу Сержу Трыгубовічу. Дзякуем усім тым, хто дапамагаў у арганізацыі вечарыны і на самом вечары – Андрусю Асадчаму, Вользе Арахоўскай, Вользе Трацэўскай, Яўгеніі Аднаворавай, Міхаілу Царану.

Сябры, каманда праэкта Дзед Барадзед плянуе прадаўжаць нашую арганізацыйную дзейнасьць і рада будзе вашай дапамозе. У нас шмат ідэй, але пакуль мы бяром невялічкі перапынак, каб узнавіць сілы і потым прыкласьці больш намаганьняў для падрыхтоўкі наступных нашых вечарынаў.

Зараз мы пашыраем нашую групу ў фэйсбуку "Беларусы ў ЗША. Разам лягчэй", дамаўляемся аб спартыўных турнірах і ладзім "шашлычныя" сустрэчы. Далучайцеся, калі ласка.



*Зьміцер Вайцюшкевіч і Зьміцер Сьляповіч*

***Ганна ШАРКО,***
***Аляксандар МАЗГАВЫ***

# “Галгатня пра ЗыШыА”

## Yes, we can!.. Once again

Любыя выбары, па вялікім рахунку, гэта дурыбары, няважна, ці гэта дыктатура, дэмакратыя ці канстытуцыйная манархія. Адрозьніваюцца толькі мэтады і стыль. Інакш ніколі нехта такі некампэтэнтны як Барак Абама ня выйграў бы ніводных выбараў, ня тое што ў ЗША, а нават у Папуа Новай Гвінеі.




Яшчэ калі яго абіралі першы раз, абсалютова незразумелаю была радасьць за сымбалічны прагрэс (які ў сацыялістаў мусова павязаны з рэгрэсам), у сувязі з выбарам першага чарнаскурага прэзыдэнта. Мала таго, што ён не зусім чарнаскуры, не нарадзіўся ў ЗША, то яшчэ і такі ж прадстаўнік панаехаўшых, як і белыя. Вось за першага прэзыдэнта-індзейца можна было сапраўды парадавацца. Але такі прагрэс эстаблішмэнтам не прадбачаны. Гэта было б для іх занадта этнічным.

Самае цікавае тое, што слоганы падчас амэрыканскіх выбараў ніколі не мяняюцца, гэта заўсёды тое самае і нязьменнае “Yes, we can”. Усе папярэднія слоганы гэта ўсяго толькі варыянты аднаго і таго ж:

1928 Herbert Hoover: A Chicken in Every Pot and a Car in Every Garage
1960 Richard Nixon: For the Future
1964 Lyndon B. Johnson: The Stakes are too High for You to Stay at Home
1976 Jimmy Carter: A Leader, For a Change
1992 Bill Clinton: Don’t stop thinking about tomorrow
2004 George W. Bush: Yes, America Can!

Галоўнае, каб увесь час даваць электарату пачуцьцё пяройдзенага рубікону, што ў апошнім дзесяцігодзьдзі набірае ўсё даслоўнейшы характар. Прэзыдэнт-нэгар, прэзыдэнт-жанчына, прэзыдэнт-ксэнафоб. І выглядае на тое, што новым прадвызначаным прэзыдэнтам ЗША, які дасьць сапраўднае пачуцьцё пераходу праз рубікон ёсьць менавіта Дональд Трамп. Перамагае той, хто абуджае эмоцыі, і жанчына-прэзыдэнт гэтую гульню прайграла ад самага пачатку.

Амэрыканскія выбары – гэта шоў. І галоўны актор сёлетняга шоў – Трамп. Супрацьстаяць яму камуніст і марксістка, а ад гэтага ў Амэрыцы падчас двайнога тэрміну Абамы паспелі ўжо трохі стаміцца нават самыя камуністы. Людзі, канешне, у сацыяльных сетках будуць лемантаваць, што Трамп фашыст, ксэнафоб і гамафоб, але ў дзень выбараў пойдуць і ціхенька прагаласуюць менавіта за яго, бо пачуцьцё пяройдзенага рубікону заўсёды мацнейшае за любыя іншыя кайфовыя пачуцьці.

Але гэта ўсё тое, што, так бы мовіць, на паверхні. А пра найвышэйшы плян нам, шараговым выбарцам, можна толькі здагадвацца.

***Віталь ВОРАНАЎ***

### Уплаты ў Згуртаваньне
### Ñêëàäê³ é àõâÿðàâàíí³:

**В. Бурмака** ....................60
**М. Валеўская** ..................60
**А. Голубева** ....................60
**А. Ермаловіч** ..................60
**А. Казімірскі** ..................60
**С. Сіткевіч** ......................60
**З. Сямёнаў** ......................60
**Н. Сямёнава** ....................60
**В. Сямчук** .......................60
**А. Таўсьцік** .....................60

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў аддзел шліце на адрас:**
*P. O. Box 572*
*New York, NY 10113*
**Чэкі выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня “Пагоня”** *Viktar Yedzinovich*.

## Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**

адбудзецца ў суботу **14-га травүня 2016 года** на Мангэтане ў Доме Маракоў па адрасу:
***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да прыпынка **Union Square**. Будынак знаходзіцца на ўсход ад **Union Square** па **15 вуліцы** на скрыжаваньні з **Irving Place**.*

Заля сходаў на 2-м паверсе.

Пачатак: **а 6:00-й** вечара.

-------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня сходаў ды іншых імпрэзаў, лджаных арганізацыяй, можна даведацца, наведаўшы сайт **pahonia.com***

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:

**В. Бурмака** ....................30
**А. Ермаловіч** ..................30
**А. Казімірскі** ..................30
**Н. Сямёнава** ....................30
**В. Сямчук** .......................30
**А. Тоўсьцік** .....................30

**Шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы аплату гадавой падпіскі ($30) на адрас: **Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” **Viktar Yedzinovich**.*

*Паважаныя **Аляксандар Дубіцкі, Раман Чарняўскі,** калі ласка, паведаміце рэдакцыі вашыя дакладныя паштовыя адрасы.*